# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 7 (341) — Нядзеля, 17 лютага 1957 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 11

# Бяз грунту пад нагамі

У часапісе «Камуніст Беларусі», гэтага «тэарэтычнага і палітычнага журналу ЦК Камуністычнае партыі Беларусі», павінен адлюстроўвацца, як гэта любіць дэклямаваць савецкая прапаганда, «перадавы вопыт камуністычнага будаўніцтва». «Камуніст Беларусі» — гэта мерка (праўда, зашыфраваная і падступная) бальшавіцкае партыйнае палітыкі на нашай бацькаўшчыне, гэта замазаная прапагандовымі фразамі адтуліна, цераз якую можна зірнуць раз у месяц на савецкую рэчаістнасьць.

«Камуніст Беларусі» мае за заданьне займацца тэарэтычнымі і палітычнымі праблемамі партыі. Але-ж «партыя — гэта ўсё». Прыгадаем тут словы іншага воргану ЦК КПБ, менскае «Зьвязды» з 28. I. 56 (гл. справазданьні з XXII зьезду КПБ): «Усім вядомая **роля сакратара райкому партыі.** Гэта кіруючая фігура, ад дзейнасьці якое перш за ўсё **залежыць посьпех у вырашэньні любога пытаньня ў раёне».** Значыцца, у «Камунісьце Беларусі» трэба шукаць адказаў на «любое пытаньне».

У першым сёлетнім нумары гэтага часапісу можна знайсьці розныя матарыялы, аднак бадай праз усе артыкулы й зацемкі, лекцыі і кансультацыі прабіваецца адно трывожнае намаганьне: выратаваць партыю ад бюракратычнае рутыны, ад закасьцянеласьці; захаваць калі ня рост, дык хоць функцыянаваньне гэтага арганізму і ўплыў на насельніцтва. Характэрным з гэтага гледзішча зьяўляецца першы артыкул з разьдзелу «Партыйнае жыцьцё», п. заг. «Аб некаторых пытаньнях палітычнай работы» (б. 8—15) аўтарства Н. Халіпава, загадчыка аддзелу прапаганды і агітацыі ЦК КПБ.

Вось-жа пасьля XX зьезду КПСС ЦК КП Беларусі правёў «старанную праверку стану палітычнай работы на мясцох». «Што-ж высьвятлілася, — пытаецца Халіпаў, — у працэсе вывучэньня і абмеркаваньня гэтых пытаньняў?». I адказвае на гэта: «Як паказала праверка, ува ўсіх выпадках мы сустракаемся амаль з аднымі і тымі недахопамі: **слабы ахоп палітычным уплывам усіх слаёў насельніцтва, асабліва сельскага, несыстэматычасьць, эпізадычнасьць праводжанай палітычнай работы, абмежаванасьць тэматыкі, вельмі часта нізкі ідэйны зьмест лекцыяў, гутарак, заняткаў, наяўнасьць фармалізму ў праводжаных мерапрыемствах, безадказныя адносіны да вывучэньня і рэагаваньня на ідэйныя запатрабаваньні і інтарэсы тых або іншых слаёў працоўных.**

«Тое-ж самае можна сказаць і аб іншых формах палітычнае работы: агітацыйнай, культурна-асьветнай, прапагандовай. Вельмі часта палітычная агітацыя або зусім не праводзіцца, знаходзіцца ў запушчаным стане, або вядзецца дзеля формы, у вадрыве ад практычных задач, на нізкім узроўні».

Факт, што на Беларусі будуюць клюбы й хаты-чытальні, тады калі людзям няма дзе жыць, тлумачыцца вышэй паданым — «лекцыямі, дакладамі, гутаркамі, заняткамі» і «палітычным уплывам», якога дамагаюцца камуністыя ад насельніцтва Беларусі. Аднак, казаў той, «полюбить не заставишь, разлюбить не прикажешь» — бальшавіцкая «асьвета» аніяк ня хоча пускаць карэньняў на беларускай зямлі. Халіпаў з ЦК КПБ піша крыху далей (б. 10):

«У няпрыглядным стане знаходзяцца шмат якія культурна-асьветныя ўстановы. У іх холадна, брудна, адсутнічаюць элемэнтарныя ўмовы для работы. Напрыклад, у калгасе імя Ільіча Быхаўскага раёну ёсьць цудоўны будынак клюбу на 400 месцаў, але ў ім вокны выбіты і заштукаваныя фанерай, няма печкі, холадна, брудна. Аб усім гэтым ведае райком партыі, аднак ня прыймае ніякіх мер і не праяўляе ніякіх клопатаў, каб навесьці парадак у культасьвет-установах раёну, стварыць мінімальныя ўмовы для культурнага вольнага часу і правядзеньня палітычнае работы. Людзям няма дзе сабрацца, паслухаць лекцыю, пачытаць газэты і г. д. **Такое становішча ня толькі ў гэтым калгасе, але і ўва ўсім раёне, і, нажаль, ня толькі ў вадным Быхаўскім раёне, але і ранісі іншых».**

Як прызнаецца «Камуніст Беларусі» (б. 14), формула «партыя — гэта народ» далёкая ад праўды. Аб гэтым вядома настолькі, што й Халіпаў не пабаяўся галасна прызнацца: «Пярэдка ў нас уяўляюць справу такім чынам, быццам толькі мы, актыў, зацікаўлены ў пасьпяховым вырашэньні гаспадарчых задач, выкананьні плянаў, а да масы адносімся як да аб'екту нашых мерапрыемстваў...»

Камунізм на Беларусі яшчэ ня мае сарака год, а ўжо ЦК падняло кампанію супраць «перастарэлых формаў і мэтадаў палітычнай работы». Ленін хадзіў «крок наперад, два назад», камунізм заграз на месцы. «Да таго-ж, — сьцьвярджае «Камуніст Беларусі» ў сваім першым сёлетнім нумары, — **мы аб гэтым** (аб «рашучым палепшаньні ўсёй дзейнасьці») **гаворым ужо многа гадоў, але колькі-небудзь сур'ёзнага ўзмацненьня і паглыбленьня пакуль не атрымліваецца...**

**Р. Л.**

# Рэгабілітацыя ці рух за рэгабілітацыю?

Хто чытае газэты й часапісы, друкаваныя сяньня на акупаванай Беларусі, той, бязумоўна, заўважыць, што ў мінулых 1955 (апошні квартал) ды 1956 гадох на бачынах гэтых газэт і часапісаў пачалі зьяўляцца імёны аўтараў, загубленых раней расейскім чырвоным акупантам ды выгнаных з усіх савецкіх бібліятэк. Гэтая падзея на родных землях была чула сустраканая нашай эміграцыяй, а апошнімі днямі гэтай падзеі пав. аўтар Янка Запруднік прысьвяціў вялікі артыкул пад шматгаворачым загалоўкам «Рэгабілітацыя», у якім, на маю думку, ёсьць некаторыя пераўвялічэньні, пачынаючы з самога загалоўку.

Паміма ўсіх стараньняў, ніжэй падпісанаму нідзе не ўдалося знайсьці ўрадавага дэкрэту БССР аб стварэньні ўрадавай рэгабілітацыйнай камісіі для праверкі няпраўна і бязьвінна памардаваных ды павысыланых на катаргу беларускіх пісьменьнікаў, паэтаў, журналістых, навукоўцаў ды прадстаўнікоў цэлага шэрагу іншых прафэсіяў, як гэта зрабіў польскі ўрад, паклікаўшы дзеля гэтага адмысловую Рэгабілітацыйную Камісію, якая правярае дзікія злачынствы сталінцаў у адносінах да іхных апазыцыянэраў ды ўстанаўляе ў поўных грамадзянскіх правох сем'і памардаваных з выплатай пэнсіяў і іншых адшкадаваньняў.

А калі ня было ў БССР ўрадавага дэкрэту ды ўрадавай камісіі, дык **няма і рэгабілітацыі,** а ёсьць спантанічны рух за рэгабілітацыю бязьвінна паніштаных акупантам сыноў і дачок Беларусі!

Мы, беларуская эміграцыя, пакліканая стаяць на варце абароны правоў нашага паняволенага народу, павінны ўсебакова прастудыяваць кажную падзею на бацькаўшчыне і толькі, калі добра і ўсебакова асэнсуем дадзеную праблему, павінны зрабіць свой вывад. Рабіць-жа з з сучаснага руху за рэгабілітацыю самую рэгабілітацыю ёсьць поўным непаразуменьнем і вялічэзнай шкодай, якая цяжка адаб'ецца на жыцьці нашых братоў і сясьцёр на Беларусі. Яны, не рэгабілітаваныя ўрадавым дэкрэтам БССР, бяз поўных правоў грамадзян БССР, безь ніякіх матарыяльных узнагародаў за свае няпраўныя высылкі, ня будуць тымі, якімі яны павінны быць, — г. зн. рэгабілітаванымі — а будуць толькі **прысабечанымі** камуністычным рэжымам «мэйд ін Раша».

Што рух за рэгабілітацыю ў БССР, без належнае падтрымкі з боку беларускае эміграцыі, зводзіцца да прысабечваньня акупантам бязь ніякага адшкадаваньня й звароту гонару памардаваных — гэта відаць досыць яскрава з бачыны савецкае беларускае прэсы. «Літаратура і Мастацтва», зьмяшчаючы нэкралёгі закатаваных паэтаў і пісьменьнікаў, захоўвае поўны сталінскі стыль камуністычнае маралі, нідзе не ўспамінаючы, якія прычыны выклікалі сьмерць Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Сымона Баранавых, Уладзімера Хадыкі і ўсіх іншых ганебна вынішчаных ахвяр расейскага камуністычнага рэжыму на Беларусі. I таму мэтай нашае эміграцыі павінна быць не сьцьвярджваньне рэгабілітацыі, якое ніколі ня было, а дамаганьне яе ў поўным значэньні гэтага слова. Таксама нельга згадзіцца з паважаным аўтарам, што ўсё гэта нібы пачалося ад славутае прамовы Хрушчова на XX зьезьдзе КПСС, бо-ж кагадзе выпушчаны з друку зборнік вершаў закатаванага на Сібіры расейскімі камуністымі паэты Ўладзімера Хадыкі быў рыхтаваны да друку перад XX-м зьездам, што дае поўныя бескампрамісовыя падставы меркаваць, што беларускі **рух за рэгабілітацыю падыктаваў** прамову Хрушчова на XX зьезьдзе КПСС.

**Мікола Вярба**

# Пытаньне, якому трэба больш увагі

Хто чытае газэту, як кажуць, «ад дошкі да дошкі», той, бязумоўна, памятае зацемку на восьмай бачыне «Беларуса» з 15 кастрычніка леташняга году — «Амэрыканцы аб Беларусах». У гэнай зацемцы гаварылася, што ў школьным атлясе ЗША, у інфармацыі аб Беларусі, падаецца, што «роднай мовай Беларусаў ёсьць мова расейская і польская». I, крыху далей, чытаем, што ў гэтым вінаватыя «расейскія і польскія шавіністыя».

Думаецца, што зусім добра сказана, як гаварылася ці раз ужо і раней, і гэтае пытаньне не павінна было-б тут намі абмяркоўвацца. Аднак было, ёсьць і будзе вельмі вялікай памылкай, калі мы ў гэткі спрошчаны спосаб будзем расправіцца з такім вялікім і кардынальным пытаньнем, як пытаньне — якой мовай гавораць Беларусы. Гэта пытаньне, якому трэба прысьвяціць ня некалькі слоў (як гэта робіць «Беларус»); яно вымагае **шырэйшых усебаковых артыкулаў у англамоўных моваведных часапісах.**

Мы думаем, што зусім ня трэба ўжо шмат абвінавачваць нейкіх там расейскіх ці польскіх шавіністых, жывучы разам зь імі на роўных правох у ваднэй і тэй самай дэмакратычнай дзяржаве ЗША. Тут толькі выяўляецца іхны спрыт ды **нядбаласьць** грамадзян ЗША беларускага паходжаньня!

Сяньня зусім ня трэба Амэрыканцу слухаць «радаў» нейкага там расейскага ці польскага шавіністага. Яму хопіць ведаў у гэтым пытаньні, узяўшы **пераклады твораў нашых беларускіх пісьменьнікаў на Бацькаўшчыне, якія перакладаюцца ў чужыя мовы толькі з расейскіх перакладаў!** I гэта ня толькі ў ангельскую мову, як «Short Stories» Янкі Брыля[1]), але і ў польскую мову творы нашых пісьменьнікаў перакладаюцца толькі з расейскага перакладу[2]).

Узяўшы такі пераклад, замежны чытач ды навет і навуковец у ніякі спосаб не даведаецца, што дадзены твор у арыгінале быў напісаны ў беларускай мове ды што Беларусы маюць сваю літаратурную мову. А што нашы моваведы і крытыкі на эміграцыі супраць гэтага зрабілі? Цяжка сустрэць усебаковы крытычны артыкул у сваёй прэсе на гэтую тэму, не гаворачы ўжо пра англамоўную. А кароткімі зацемкамі, мы думаем, такое справы не направім.

Гэта было што да тэарэтычнай нашай дзейнасьці. Што-ж тычыцца практычнага боку нашае — поўнасьцяй магчымае — працы, дык мы навет не здабыліся і на такі высілак, які раўняўся-б маленькай зацемцы ў «Беларусе».

Ад даўжэйшага часу ў ЗША і Канадзе (а магчыма і ўсяго англамоўнага сьвету) распаўсюджваюцца рэпрадукаваныя «Ctinsonâm» кружэлкі, насьпяваныя ў мінулых гадох славутым Лювэнскім Ансамблем Беларускае Песьні й Танцу, на якіх рэпрадуктары бяссорамна пішуць: «Russian Records» («Расейскія кружэлкі»). Прачытаўшы гэткі загаловак і даведаўшыся з там-жа зьмешчанага надпісу, што гэтыя «Расейскія кружэлкі» выконвае Беларускі Лювэнскі Хор, мы ня думаем, каб Амэрыканец дагадаўся, ці мог каму паверыць, што Беларусы маюць сваю мову!

А што мы, практычна, зрабілі ў змаганьні з гэтай няпраўдай, выпрадукаванай на нашых нацыянальных высілках? Паміма ўсіх стараньняў ніжэй падпісанага, нідзе не ўдалося знайсьці сьлядоў, каб нехта публічна ў прэсе апратэставаў гэткую няпраўду.

Ці для прыкладу, узяць кружэлку рэпрадукаваную фірмай «Колёссэум» у Нью Ёрку, з найграных у БССР пяцёх кружэлак, на вокладцы якое, уверсе, рэклямуецца: «Lydia Ruslanava in Russian Folk Songs and dances» («Лідзія Русланава у расейскіх народных песьнях і танцах»), а далавах: «Byelorussian Folk Songs and Dances — National Byelorussian Folk Orchestra and Chorus in Minsk» («Беларускія народныя песьні і танцы — Беларуская народная аркестра і хор у Менску»). Сам загаловак ня ясны. I зацікаўлены ня ведае, што тут такі за гібрыд. Беларускае гэта ці расейскае?.. А калі зьвернецца на другую бачынку вокладкі, каб ўсё-ж-такі даведацца, што тут такое, — дык пабачыць з паясьненьняў сп. Бруно Г. Ронты (Bruno G. Ronty), што „The History of the Byelorussian and Russian music follows complethy the same pattern. In language there ar also very small difference... («Гісторыя беларускае і расейскае музыкі ідзе дакладна тым самым шляхам. У мове таксама вельмі малыя розьніцы...»).

Вось вам і нашая самабытная песьня!..

А што ў нас зроблена, каб выправіць гэтую дэзінфармацыю?

Думаецца, што нічога...

**Мікола Вярба**

[1]) Janka Bryl, Short Stories. Foreign Languages Publishing House, Moskow. Translated from the Russian by David Skvirsky.

[2]) Janka Bryl, W Zabłociu Świta. Polski Instytut Wydawniczy, Warszawa, 1953. Przełożył z rosyjskiego Stanisław Furmanik.

# За мінулы тыдзень

**(пс)** Пагадненьне паміж каралём Саўдаўскай Арабіі і ўрадам ЗША трэба расцэньваць як пазытыўную палітычную падзею, якая можа спрычыніцца да пашырэньня дактрыны Айзэнгаўэра на Блізкім Усходзе і гэтым самым да паменшаньня савецкіх уплываў у гэтым раёне. Як мы ўжо няраз гаварылі, маскоўскі хуліган з запалкамі знайшоўся у небясьпечнай блізкасьці ля нафты і таму яго трэба безадкладна выгнаць адтуль. Хоць яшчэ дактрына Айзэнгаўэра адлежваецца ў Сэнаце, і няведама якое будзе мець канчальнае афармленьне, усё-ж гэта дагэтуль адзіная канцэпцыя паўстрыманьня маскоўскае экспансіі на Блізкім і Сярэднім Усходзе.

✳

Крамлёўскі калектыў русалак пачаў чараваць канцлера Адэнаўэра. Калі ўлічым 82-гадовы век канцлера і ягоны выдатны палітычны розум, можам спадзявацца, што барадатая русалка — Булганін ня будзе мець пажаданых посьпехаў.

Апошні ліст Булганіна да Адэнаўэра — паказовы экзэмпляр маскоўскае пэрфідыі. Тут Булганін і, як ён піша, «ягоныя калегі», раз настройваюцца на высокае і лірычнае «с», а ў іншым месцы равуць вульгарным басам. Таксама трапляюцца хамскія нятакты, бо нельга інакш разглядаць тае часткі лісту, дзе Булганін вучыць Адэнаўэра, што трэба рабіць, каб ісьці паводля жаданьняў і імкненьняў нямецкага народу. Манэўр —рэч зразумелая — партацкі, але тым больш небясьпечны, бо просты. Папершае, маскоўскія бонзы хацелі-б справакаваць заходня-нямецкі ўрад да размоваў з сваімі марыянэткамі Гротэволямі ды іншымі Ульбрыхтамі, а, падругое, вульгарна кажучы — падлажыць Адэнаўэру сьвіньню на выбарах, якія маюць адбыцца ў гэтым годзе.

Думаем, што ні адно, ні другое ім ня ўдасцца.

✳

Апошнімі часамі Масква штучна стварае і раздувае псыхоз страху перад інфільтрацыямі нейкіх розных разьведак у Савецкі Саюз. Нядаўна прэсавы рэфэрэнт міністэрства замежных справаў СССР Ільічоў наладзіў адмысловую прэсавую канфэрэнцыю, на якой расказваў замежным журналістам розныя макабрычныя байкі аб амэрыканскіх шпіёнах. Амаль у кажнай савецкай газэце сустрэнем нейкі артыкул, прысьвечаны гэтай тэме. Напрыклад, 12 лютага маскоўскае радыё перадало аж пяць артыкулаў і інфармацыяў аб замежнай інфільтрацыі. Шмат пры гэтым лаюць Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму, а таксам радыё «Вызваленьне». Калі возьмем пад увагу факт, што Масква некалькі год прамоўчвала аб існаваньні гэтых інстытуцыяў, а цяпер так завыла, можна дайсьці да высвнаву, што гэта бальшавіком баліць і ужо моўчкі гэтага ня могуць абыходзіць.

Ну, а калі маскоўскім сатрапам штось баліць — мы ад гэтага здаравеем.

## УВАГА!

### Новая кніга паэзіі

У выдавецтве «Бацькаўшчыны» зьяўляецца ў бліжэйшым часе кніга выбраных твораў Рыгора Крушыны. У кнігу ўваходзяць выбраныя вершы й паэмы, напісаныя аўтарам ў пэрыядзе 1927-1957 гг.

Памер кнігі — 11,5 друкаваных аркушаў. Цана — 2 дал.

Замоўленьні просім накіроўваць на адрас Выдавецтва.

**«Бацькаўшчына»**

### АД АДМІНІСТРАЦЫІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Папярэдні 5 (339) нумар «Бацькаўшчыны» за 3 лютага 1957 г. многімі нашымі падпісчыкамі й Прадстаўнікамі ня мог быць атрыманы з прычыны прыпадковага зьмяшаньня падчас экспэдыцыі, адрасоў. Адміністрацыя просіць паведаміць тых, што не атрымалі такім чынам папярэдняга нумару газэты, які будзе дасланы пазьней.**

# Да 40-ых угодкаў Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі

У 1957 годзе мінае 40 гадоў з часу калі паўстала Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя — палітычна-грамадзкая арганізацыя, якая стаяла на чыста незалежніцкім груньце. Заклалі яе пераважна беларускія каталікі ў 1917 годзе ў Петраградзе. З выдатных ейных сяброў заслугоўваюць на асаблівую ўвагу праф. Эпімах-Шыпіла, доктар філялёгіі й філязофіі пралат Абрантовіч, А. Зязюля (кс. Астрымовіч), ксяндзы Б. Гадлеўскі, А. Цікота, Я. Гэрмановіч, К. Стэповіч, В. Шутовіч і іншыя. Гэтая арганізацыя адразу стала на здаровы дэмакратычна-хрысьціянскі й незалежніцкі грунт і ўжо ў наступным годзе яе прадстаўнікі на чале з В. Гадлеўскім баранілі незалежніцкую ідэю на 1-ым Усебеларускім Кангрэсе. Прэсавы ворган гэтай арганізацыі — тыднёвік «Крыніца» — зь першага нумару годна выконваў сваё заданьне.

У наступных пару гадох сіламі фактаў сябры й арганізацыя, а таксама й «Крыніца», перанесьліся ў нашую гістарычную сталіцу Вільню. Тут распачынаецца новы плённы пэрыяд працы, які трывае праз амаль 30 гадоў аж да заканчэньня другой сусьветнай вайны.

Спачатку БХД разьлічвала пераважна на беларускія каталіцкія масы і таму як шрыфт прыняла лацінку ў сваёй прэсе й карэспандэнцыі.

У 20-ых гадох БХД налічвала каля 250 сяброў, сярод якіх было каля 25 каталіцкіх сьвятароў і столькі-ж людзей з вышэйшай асьветай. Душой гэтай арганізацыі ў Вільні стаўся кс. Адам Станкевіч, доўгагодні рэдактар «Крыніцы». Супрацоўнікамі былі ксяндзы Талочка, Гадлеўскі, Семашкевіч (Я. Быліна), Стэповіч (К. Сваяк), Гэрмановіч, інж. Дубейкаўскі і іншыя. Дзейнасьць арганізацыі пасьля Рыскага міру абмежавалася да Заходняе Беларусі і Беларусаў у вольным сьвеце. Палякі, зразумела, адносяцца да Беларусаў няпрыхільна: што могуць то ліквідуюць паліцыйным тэрорам і фізычнай сілай, а дзе ня могуць — стараюцца разьесьці знутры, дывэрсіяй. І так, каб здэзарыянтаваць Беларусаў, яны ставяць пачарзе аднаго найміта за другім, якім загадваюць весьці дэструкцыйную працу сярод Беларусаў. Наймі-ты-палянафілы «арганізуюцца» і навет выдаюць свае часапісы, якія аднак ня маюць папулярнасьці. Супраць іх наважана выступае «Крыніца» і ўсе сябры ды прыхільнікі БХД. Хутка падаюць палянафілы Аляксюк, Умястоўскі, Вярнікоўскі, Сіняўскі і ў канцы Сарока з Астроўскім.

З другога боку беларускія левыя, прычырванеўшыя камунісычныя спадарожнікі і самыя сябры камуністычнае партыі як Заходняе, так і Ўсходняе Беларусі, заядла змагаюцца зь дзейнасьцяй БХД і ейным ворганам «Крыніцай». Яны ўсюды стараюцца прадставіць БХД, як ксяндзоўска-фашыстоўскую арганізацыю. Бывалі выпадкі, што камуністыя адкрыта нападалі на сяброў БХД і зьнішчалі «Крыніцу».

Аднак праца Беларусаў-каталікаў сталася ўжо зашмат агульна-беларускай, каб яе можна было спыніць рознымі дэструкцыямі і правакацыямі. Вялікія дасягненьні былі ў галіне ўсяго беларускага руху ў Заходняй Беларусі. Паўстае Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, які складаецца з прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацыяў Заходняе Беларусі. Навонкі БХД уваходзіць у цесную сувязь зь Летувісамі, Украінцамі, Немцамі й Жыдамі; паўстае магутны блёк нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, які ўжо ў 1922 годзе выступіў адзіным фронтам да выбараў і шмат нам дапамог. Мэмарыялы і карэспандэнцыі аб нашым палажэньні плылі за межы, дзе выкарыстоўваліся нашымі абаронцамі ў Лізе Нацыяў і замежнай прэсе.

У сілу абставінаў БХД мусіла зьмяніць свае пазыцыі: да працы прыцягваюцца і праваслаўныя, а «Крыніца» пачынае друкавацца лацінкай і кірыліцай. Выдаваныя розныя творы друкуюцца ў бальшыні таксама кірыліцай. «Крыніца» ў гэтым часе канфіскуецца польскай цэнзурай зрэдка, прыблізна што сёмы-восьмы нумар, але сыстэматычна. У наступных гадох гэта рэзка зьменіцца.

Даволі бурлівым часам для БХД былі гады 1926-27. У гэтым пэрыядзе акцыя левых моцна ажывілася, ідучы за зманлівымі клічамі, разьлічанымі на кароткі эфэкт, а часта кіраванымі варожай для нашай справы рукой. Яны разьбілі Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні й заклалі Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду. Пры выдатнай падтрымцы з боку Саветаў яны заядла і ўпорыста на працягу васьмі месяцаў сваго існаваньня атакавалі БХД. Хадэкі вытрымалі аднак гэты наступ, «Крыніца» ня толькі не паддалася, а аказалася найбольш папулярнай газэтай у Заходняй Беларусі.

У гэтым часе ў Вільні паўстаў апалітычны Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры, які праіснаваў восем гадоў і ў 1929 годзе меў тры аддзелы і 77 гурткоў ды субсыдыяваў 4 беларускія школы. Хадэкі дапамаглі таксама закласьці Беларускі Сялянскі Саюз зь ягоным ворганам «Сялянская Ніва». Пасьля ўпадку Грамады. хадэкі ладзяць адзін з чарговых партыйных зьездаў, на якім радыкалізуюць сваю праграму, хоць яна і да гэтага часу была даволі радыкальнай. У праграму ўводзіцца прынцып расподзелу зямлі між сялянамі бяз выкупу, тады калі ў папярэдняй праграме прадугледжваўся выкуп. На шляху змаганьня за незалежнасьць засталіся толькі хадэкі з успомненымі прыбудоўкамі. Беларускае Навуковае Таварыства не магло выбіцца із сьценаў свайго памешканьня ў Базыльянскіх мурах, а адзіная пазытыўная арганізацыя левых — Таварыства Беларускае Школы моцна хісталася; яно было нашпікаванае камуністычнымі агентамі, якія ніколі не дапусьцілі ейную цэнтралю ў Вільні да публічнага сьвяткаваньня акту 25 Сакавіка. Калі Беларускі Нацыянальны Камітэт ладзіў акадэміі з нагоды нашых нацыянальных сьвятаў, дык хор Шырмы, прыкладам, сьпяваў паводля ўмовы за аплату. Аднак, масы ў Вільні і інтэлігенцыя былі на баку хадэкаў; прыкладам Беларускі Студэнцкі Саюз доўгія гады карыстаўся дармовым памешканьнем Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры. Шматлікія студэнты й вучні гімназіяў атрымоўвалі матарыяльную дапамогу і г. д.

У 1927 годзе яшчэ адзін вораг накінуўся на «Крыніцу»: гэта быў ведамі польскі шавіністы арцыбіскуп Ябліжыкоўскі, які пад пагрозай касьцельных караў забараніў каталіком належыць да Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі ды чытаць «Крыніцу». З гэтай нагоды «Маланка» пісала (дадаючы карыкатуру):

«„Крыніцу" нашу кіем ёмка<br>
Ўдарыў біскуп па баку,<br>
Але што леваю рукою,<br>
То ёй гэта не ўзнаку».

З радоў БХД афіцыйна выбыла каля 30 ейных заснавальнікаў і актывістых, але на зьмену ім прыйшлі ў большай колькасьці маладзейшыя, праваслаўныя. Справа, такім чынам, ня толькі не пагоршылася, а наадварот, узрасла.

У 30-х гадох хадэкі й іхны ворган «Крыніца» мусілі далей змагацца із «Змаганьнем», дзе сканцэнтраваліся камуністычныя недабіткі ды іхныя спадарожнікі. «Комікі» — як празывалі нашых левых — два разы нападалі на друкарню «Пагоня», наносячы ёй значныя шкоды, каб толькі спыніць беларускую незалежную прэсу, якая цяпер друкавала якраз Ф. Аляхновіча «У капцюрох ГПУ» ды апісвала савецкую рэчаіснасьць у калгасах, канцлягерах і г. д. Арганізацыя выносіла таксама шматлікія пратэсты супраць нялюдзкага перасьледу беларускіх сялян і інтэлігенцыі ў Савецкай Беларусі.

Наагул праца арганізацыі разьвівалася вельмі памысна. Аднак у гэтым часе ў дачыненьні прэсы ў польскім карным кодэксе паявіліся новыя артыкулы, што тычыліся «ведамак нязгодных з праўдай», «падбураньне масаў» ды забарона ўжываньня тэрміну «Заходняя Беларусь». «Крыніца» канфіскавалася меншбольш што пяты нумар. Рэдактары то плацілі грашовыя кары, то ішлі ў турму. І так рэдактар Я. Пазьняк ад 1928 да 1938 гг. меў 35 судовых справаў, а «Крыніца» дасягнула 137-ае канфіскаты. Сярод палянафілаў цяпер выступалі Р. Астроўскі, Сарока і Сіняўскі. Яны ўжо, стварыўшы сабе пару фікцыйных арганізацыяў, ня сэзонна, а стала й сыстэматычна рабілі нагонку на хадэкаў.

**НАЙЛЕПШЫМ і НАЙПРЫЯМНЕЙШЫМ ПРЫНАГОДНЫМ ПАДАРКАМ ЁСЬЦЬ ПОЎНАЯ БІБЛІЯТЭЧКА БЕЛАРУСКІХ КНІЖАК ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» ПА ЗЬНІЖАНАЙ НАПАЛАВІНУ ЦАНЕ**

У 1934 г. на агульным зьезьдзе сяброў БХД перайменавалася ў Беларускае Народнае Аб'еднаньне (БНА) і канчаткова сфармулявала сваю праграму, якая адзначалася, ня толькі сваім незалежніцкім характарам, але і сваім сацыяльна-эканамічным зьместам. Прыкладам побач такіх прынцыпаў, як надзяленьне сялянаў зямлёй бяз выкупу, васьмігадзінны дзень працы, прадугледжвалася і права на супольнае карыстаньне зямлёй, калі-б гэтага жадала дадзеная супалка сялянаў.

У гэтых гадох беларуская друкарня імя Пранціша Скарыны друкавала каля 120-135 пазыцыяў беларускага друкаванага слова. Прыкладам, творы Багушэвіча былі выданыя тыражом ў 35 тысяч эгзэмпляраў. Былі таксама перанятыя выдавецтвы Клецкіна і іншых прыватных выдаўцоў. Польскі ціск штораз павялічваўся, прадбачваліся канфіскаты раней выдадзеных твораў, а таму быў кінуты кліч: «кніжку ў народ!». Укладаліся бібліятэчкі для гурткоў БІГіК і для прыватных асобаў, або як прэміі за поўную падпіску «Крыніцы». Сябры Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні разьвезьлі каля 35 бібліятэчкаў, каля 70 было разаслана ў гурткі БІГіК і каля 100 было раздадзена прыватным асобам. Бібліятэчка налічвала 35-40 кніжак. Частка з гэтых кніжак сталася здабычай польскай паліцыі, частку зьнішчылі польскія ксяндзы (яны асабліва кідаліся на беларускія рэлігійныя кніжкі для багаслужбы), а частку зьнішчылі бальшавікі; у бальшыні аднак гэтыя кніжкі засталіся ў народзе. Прыкладам, «Гісторыя беларускае (крыўскае) кнігі» В. Ластоўскага разыйшлася ў 350-ці эгзэмплярах.

У 1935 годзе Прэзыдыюм Цэнтральнага Камітэту БНА вынес пратэст супраць бальшавіцкіх злачынстваў у Беларусі ды супраць русыфікацыі беларускае мовы. Зь пяці асобаў, што падпісалі гэты пратэст, трох аддало жыцьцё за Бацькаўшчыну. Менш-больш гэткая самая прапорцыя ахвяраў была і паміж звычайнымі сябрамі БНА. Бальшавікі не маглі даравацьхадэкам за іхнюю незалежніцкую працу, за папулярызаваньне ў масах ідэі незалежнасьці Беларусі ды за дэмаскаваньне бальшавіцкае рэчаіснасьці.

У 30-х гадох тыраж «Крыніцы» дасягнуў 8 тысяч эгзэмпляраў, і яна даходзіла навет да найцямнейшых куткоў Палесься. Аднак польскі наступ шалеў і ў 1938 годзе дзейнасьць БНА і БІГіК была спыненая, выдавецтва «Крыніцы» зачыненае, суды над рэдакцыяй — не закончыліся. Спадзяваліся канфіскаты друкарні і кнігарні. Палянафілы ў гэтым часе ня мелі ўжо зь кім змагацца й іх пагналі проч, толькі Р. Астроўскі дастаў становішча дырэктара гімназіі ў Лодзі, а Сарока стаўся працаўніком Аддзелу Бясьпечнасьці Віленскага Ваяводзтва. Сяброў БНА Палякі разагналі па ўсёй Польшчы, а некаторых замкнулі ў Картускую Бярозу. Сюды перад вайной трапілі Я. Шутовіч, В. Багдановіч, Паўлюкоўскі і шмат іншых.

Трэба адцеміць, што БНА ніколі не падходзіла вузка да нашай адраджэнскай справы. Гэта найбольш праявілася ў ейнай шырокай нацыянальнай і сацыяльнай праграме, у талеранцыі ці падтрымцы іншых беларускіх незалежніцкіх арганізацыяў. А таму нічога дзіўнага, што ў 1927 годзе БХД спрычынілася да ўтварэньня Сялянскага Саюзу і субсыдыявала ягоны ворган «Сялянскую Ніву». Толькі, нажаль, не знайшлося тут запраўднага правадыра нашых сялян і таму гэтая арганізацыя не разьвілася.

Успамінаючы працу іншых і сваю зь недалёкай мінуласьці, сьхіляючы галаву перад мучанікамі за нашу справу, канчаю свой артыкул з надзеяй, што іншыя сябры і людзі добрае волі, якія маюць доступ да сусьветных бібліятэк у Амэрыцы, Эўропе (асабліва ў Англіі) ці іншых частках сьвету, захочуць падаць больш матарыялу зь дзейнасьці нашай слаўнай арганізацыі БНА.

**Я. Лаўрыновіч**

П. С. У далейшым напішу артыкул «Значаньне БНА ў другой сьветавай вайне».

**Я. Л.**



**Выканальнікі беларускіх народных танцаў зьлева направа: Нікодым Жызьнеўскі, Вера Жызьнеўская, Марк Бад, Марля Стуарт, Джэры Джансан, Лесьлі Барлісан, Род Лайнінгэр, Мэрэдід Магэнгаймэр і Рогэр Лер.**

---

Дарма што народная плынь ня была, як такая, арганізаваўшыся, яна была найбольшая і ейныя сяброве зьдзеялі найболей дзеля беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Да народнае плыні належалі аднолькава як Беларусы праваслаўныя, так і каталікі. Розьніцы ня было ніякае або, накш, не зважаючы на рэлігійныя розьніцы, былі адны адным родныя браты. Ня было цёмнага, азіяцкага, перанятага ў Маскоўцаў рэлігійнага фанатызму, што калі іншае веры, дык ты мне вораг. Звычайна ў стычнасьці Беларусаў абедзьвюх вераў рэлігійныя пытаньні не падымаліся, а калі падымаліся, дык яны разглядаліся з гледзішча нацыянальнага. Адным чынам рэлігійная й царкоўная прыналежнасьць ня была характарыстычнай рысаю народнае плыні.

**Духоўныя ў праваслаўных.** Але ў Беларусаў праваслаўных і каталікоў былі духоўныя, былі сьвятары, і сярод іх рыса рэлігійна-царкоўная мусіла стацца рысаю важнай, рысаю, што апрычыла іх і іхных супрацаўнёў з агульна-народнае плыні ў васобную плынь праваслаўную або каталіцкую. Мусіла гэта стацца з таго часу, калі паўстала сьвядомае беларускае духавенства праваслаўнае й каталіцкае. З духавенствам праваслаўным справа была цяжкая. Яно мела каставы характар да 1-ае сьветнае вайны. Праваслаўныя духоўныя сэмінарыі запаўняліся сынамі праваслаўных сьвятароў, каторыя былі зрусыфікаваныя. Сыну беларускага селяніна лучыць у праваслаўную духоўную сэмінарыю было надта цяжка, а звычайна й сусім немагчыма, як дзеля свайго матар'яльнага стану, так і дзеля таго, што кіраўніцтва сэмінарыі не жадала мець у сябе за гадунцоў сялянскіх сыноў. А паповічы із свае зрусыфікаванае радзімы лучалі ў яшчэ болей зрусыфікаваную духоўную сэмінарыю. Навукова, з навукі гісторыі дайсьці беларускаму праваслаўнаму кандыдату за сьвятара да нацыянальнага сьвядом'я было таксама немагчыма, бо ня было ў Беларусі праваслаўнай духоўнай акадэміі, яе Расейцы даць нам баяліся. Дык будучыя праваслаўныя сьвятары ў Беларусі не маглі самі даходзіць праўды, як гэта робяць у высокіх школах, але, як у школах сярэдніх, прымалі гатовую веду, каторую ім давалі ў расейскім сосе насланыя з Расеі русыфікатары або абруселыя ўжо Беларусы-янычары. Скончыўшы духоўную сэмінарыю, маладзён, калі хацеў быць пасьвячаны за сьвятара, жаніўся звычайна з папоўнаю, зн. узноў із зрусыфікаванай дзяўчынаю.

З другога боку, і праваслаўнае сялянства ня імкнулася да таго, каб ягоныя сыны былі сьвятарамі. гэта быў яму ідэял досыць высокі. Тыя сяляне, што стараліся, каб іхныя дзеці «вышлі ў людзі», абмежаваліся панствам ніжшым, вось каб сын выйшаў за народнага вучыцеля, пісара, хвэльчара. Хто добра скончыў народую школу (3 гады навукі), той мог паступіць у вучыцельскую сэмінарыю, дзе меў усё дармавое — навуку, гасподу й яду. За 4 гады ён быў гатовы вучыцель. Дзеля таго былі й такія сёлы, дзе ня было хаты, з каторай ня было-б вучыцеля.

Зь менаваных прычынаў нацыянальна сьвядомае праваслаўнае духавенства беларускае зьявілася толькі па першай сьветнай вайне.

### Каталіцкая плынь

У іншым палажэньні былі Беларусы каталікі. Ксяндзы ня мелі сем'яў, дык і не магло быць ксяндзоўскае касты. Як і сяляне праваслаўныя, каталікі ня мелі высокіх ідэялаў для будучыні сваіх сыноў. Ім было-б досыць, калі-б іх сыны былі народнымі вучыцялямі, валаснымі пісарамі, хвэльчарамі. Але ў Расеі ня было дазволена Беларусу каталіку быць вучыцелем, Беларусаў каталікоў ня прымалі ў вучыцельскія сэмінарыі, таксама не маглі яны быць пісарамі ў валасьцёх. Хвэльчарамі маглі быць, але пра хвэльчарскія школы ня было чуваць, было іх надта мала. Дык найбліжшым магчымым ідэялам сялянска-каталіцкіх хлапцоў, асабліва-ж бацькоў, быў ксёндз. Паны ня імкнуліся вучыць сваіх сыноў за ксяндзоў, уважалі палажэньне ксяндза за нізкае й цяжкае сабе. Дык у каталіцкія духоўныя сэмінарыі йшлі дзяцюкі мяшчанскія, сялянскія й засьцянковае шляхты.

Каб паступіць у духоўную каталіцкую сэмінарыю, трэба было або скончыць пяць клясаў гімназіі, што тады ў беларускіх сялян здаралася рэдка, або здаць эгзамен за аптэкарскага вучаньніка. пасьля гэтага пры паступленьні ў сэмінарыю быў толькі эгзамен з расейскае мовы, гісторыі й геаграфіі Расеі. Прыгатавацца да эгзамену за аптэкарскага вучаньніка можна было або экстэрнам, зн. ня вучачыся ў школе, як шмат хто й рабіў, або скончыць месцкую школу (гарадзкое вучылішча — 4 гады навукі пасьля народнае школы), а потым прыгатавацца й здаваць эгзамен за аптэкарскага вучаньніка з лацінскае й нямецкае моваў і, здаецца, з матэматыкі. У сэмінарыі навука й яда былі дармовыя, таксама гаспода, а на адзежу, кніжкі і палепшаньне яды памагалі сваякі або суседзі што вельмі прыялі кандыдатам як-бы ў палусьвятыя ў вачох сялян каталікоў.

Гэткім парадкам дарога Беларусам каталіком да выжшае за народную дармовае школы была шмат большая, чымся праваслаўным да вучыцельскае сэмінарыі. Але з гледзішча на захаваньне свае нацыянальнасьці, няхай і неўсьвядамлянае нацыянальнае апрычонасьці гэта дарога была бесьпячнейшая: у месцкіх і агульнаасьветных сярэдніх школах не праводзілася такая моўная, да дробязі абдуманая русыфікацыя, як гэта было ў школах закрытых — вучыцельскіх і праваслаўных духоўных сэмінарыях. А польскі ўплыў мог прыходзіць толькі звонку школы.

Беларусы маглі паступаць у дзьве каталіцкія духоўныя сэмінарыі — Віленскую й Магілеўскую, як і такую-ж духоўную акадэмію, якія, дарма што зваліся магілеўскімі, былі ў Пецярбурзе. Каталіцкая духоўная акадэмія і пры ёй сэмінарыя былі перанесеныя расейскаю ўладаю зь Вільні ў Пецярбург у 1842 годзе. Як і іншыя высокія школы, у тым ліку каталіцкую духоўную акадэмію Расейцы ўважалі за небясьпечныя ў Беларусі і дзеля таго старыя зачынялі, а новых не дазвалялі. Што да акадэміі ў Пецярбурзе, то расейскі ўрад уважаў, што, вывезеная зь Беларусі, яна ня будзе небясьпечнай расейскім уплывам і што ў расейскай сталіцы ейныя гадунцы падпадуць пад расейскі ўплыў. Ведама, што духоўная акадэмія зь сялібаю ў Пецярбурзе ня была такой карыснай, якой-бы была-б, калі-б заставалася ў Беларусі але гадунцы ейныя ня русыфікаваліся. Трэба зацеміць, што ў гэтай акадэміі можна было вучыцца толькі на свой кошт.

Кіраўніцтва менаваных сэмінарыяў і акадэміі, як і кіраўніцтва ўсім каталіцкім касьцёлам у Беларусі, было ў руках польскіх, бо расейскі ўрад, жадаючы палягчыць сабе русыфікацыю бальшыні Беларусаў, зн. праваслаўных, другую, меншую часьць, каталіцкую аддаў на жыр Палякам.

---

[9]) Прыкл., у № 46 із 1911 г.

(Далей будзе)

# Зь беларускага жыцьця

## Міжнародны фэстываль танцаў (ЗША)

У Пэорыі жыве толькі 8 Беларусаў. Ня гледзячы аднак на так малую колькасьць ды розьніцу веку, яны не застаюцца ззаду ад большых беларускіх асяродкаў у ЗША і пры кажнай нагодзе годна рэпрэзэнтуюць свой край, паказваючы праўду аб нядолі сваіх суродзічаў у паняволенай Бацькаўшчыне ды знаёмячы Амэрыканцаў з нашай культурай, мастацтвам і звычаямі. Ня было яшчэ ніводнай міжнароднай імпрэзы, у якой Беларусы ня ўзялі-б удзелу. Паколькі Беларусаў тут так мала, яны прыцягнулі да дапамогі амэрыканскую моладзь.

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць апошнія выступы беларускае групы ў прыграме «Міжнароднага Фэстывалю Танцаў», ладжаным YWCA-ай. Гэты фэстываль адбыўся 28 лістапада 1956 году. Акрамя Беларусаў, у праграме ўзялі ўдзел Грэкі, Гавайцы, Жыды, Шкоты, Швэды, Украінцы, Італьянцы, Філіпінцы й Амэрыканцы.

На беларускую частку зладжыліся танцы «Лявоніха» і «Полька Янка». «Лявоніху» выканалі 4 пары, а «Польку Янку» затанцавалі Вера і Нікодым Жызьнеўскія. Канфэрансье ўвёў беларускую частку наступнымі словамі:

«Беларусы зьяўляюцца асобным народам і вельмі розьняцца ад Расейцаў. Палітычна, гістарычна і культурна Беларусь — гэта старая нацыя. Беларусы маюць сваю собскую мову, якая належыць да групы славянскіх моваў.

«Таму што Беларусь — гэта ў сваёй аснове земляробскі край, ейны народ жыве пад сталым уплывам жывое прыроды. Ягоныя песьні і танцы адлюстроўваюць усё, што адбываецца ў ягоным жыцьці».

Пасьля конфэрансье перадаў значэньне кажнага танцу.

Публіка абдарыла беларускую групу бурнымі воплескамі, змушаючы паўтарыць кажны танец на «біс».

Акрамя Беларусаў і Украінцаў, найбольшым посьпехам цешыліся Італьянцы й Філіпінцы. Праграма была настолькі ўдалая, што аб ёй яшчэ і цяпер успамінае мясцовая прэса.

Беларускімі танцамі кіравалі Вера і Нікодым Жызьнеўскія.

Мясцовая прэса зьмясьціла здымкі некаторых удзельнікаў праграмы, і прысьвяціла ёй зьместоўныя артыкулы. Інфармацыйная агенцыя ЗША ў Вашынгтоне (US Information Agency) паведаміла, што яна мае намер выдаць адмысловую брашуру аб гэтай праграме дзеля распаўсюджваньня яе ў іншых краінах. Фатаграф гэтае агенцыі рабіў здымкі падчас выступу.

Не адбылося і бязь няпрыемнасьцяў. Прыхільнікі Расейцаў хацелі прадставіць нашы танцы, як расейскія. Мы згадзіліся выступіць толькі тады, калі атрымалі запэўненьне, што нас прадставяць як Беларусаў.

Шкодны элемэнт беларускай справе заўсёды будзе намагацца нам шкодзіць і не дапушчаць да рэпрэзэнтацыі нашых інтарэсаў. Гэтак сталася ў 1953 г. зь перадачамі «Голас Амэрыкі» на беларускай мове на нашы нацыянальныя сьвяты. Калі мясцовы кангрэсмэн выстараўся гэтыя перадачы, дык пару «нашых» «дзеячоў» паехалі ў Вашынгтон і дамагліся іхняга скасаваньня.

Ад абрасейваньня аднак усьцерагчыся не ўдалося. Два тыдні пасьля праграмы адна журналістка ў сваіх камэнтарыях прыпісала беларускую нацыянальную вопратку Расейцам. Беларусы Пэорыі зараз-жа апратэставалі і дамагліся папраўкі. Давялося чакаць амаль месяц, але затое газэта зьмясьціла артыкул аб Беларусі. Праўда, і тут закраліся некаторыя недакладнасьці, але гэта ня віна газэты — запраўдных дадзеных аб Беларусі ў ангельскай мове вельмі мала. Ня маючы адкуль узяць інфармацыю, газэта, відаць, апрача брашуры Прэз. Абрамчыка, карысталася афіцыйнымі даведкамі «беларускага» прадстаўніка ў Задзіночаных Нацыях, якому, як ведама, на інтарэсах Беларусі не залежыць. Дзеля гэтага чарга за нашымі публіцыстымі і гісторыкамі заняцца гэтай справай і пастарацца выдаць кнігу аб Беларусі ў ангельскай мове.

Трэба адцеміць, што зарганізаваньне выступу ў Міжнародным Фестывалю Танцаў каштавала шмат арганізатарскае працы і высілкаў. Давялося шукаць між знаёмых Амэрыканцаў танцораў, а таксама прыдбаць для ўсіх нацыянальную вопратку. Беларусы ў Пэорыі складаюць на гэтым месцы шчырую падзяку ўсім, хто прчыніўся да так удалага выступу.

**В. Ж.**

### ЗЬ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ

У нядзелю, 20 студня, адбыўся пяты Культурна-Асьветны Сход Беларусаў Нью Ёрку й Джэрсі Сіты. На сходзе др. Я. Станкевіч меў другую палавіну свайго дакладу пра Нашаніўства, сп. Я. Гладкі меў цікавы даклад пра беларускія калядныя звычаі, каторы таксама цікава дапоўнілі сп. Ант. Шукелайць і сп. М. Кунцэвіч. Сп. Ант. Адамовіч памастацку прачытаў паэму Я. Купалы «На Куцьцю». Апрача таго, было граньне беларускіх песьняў з кружэлак на грамафоне.

*

### ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКІХ ЛЕКАРАЎ

Культурна-Асьветны Рэфэрэнт Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня зьвярнуўся да ўсіх беларускіх лекараў з наступным пасуленьнем:

«У нас Беларусаў ёсьць дзьве вялікія патрэбы лекарскага характару.

Аднэй зь іх ёсьцека пашырэньне гігіенічных ведамкаў патрэбных у штодзенным жыцьці кажнага беларускага эмігранта. Такія ведамкі згодзяцца і ўсяму беларускаму народу па вызваленьні яго з пад маскоўскай няволі.

Другой патрэбаю ёсьць апрацаваньне пляну ўсебаковае арганізацыі гігіенічнае справы ў будучым незалежным беларускім гаспадарстве. Гэтае заданьне можа быць падзелена на тры часьці: а) забяганьне хваробам, б) лячэньне хваробаў і в) выданьне правоў, патрэбных для народнага здароўя.

Рэфэрат зварочваецца да лекараў із просьбаю напісаць яму, якія, паводля іх, тэмы павінны быць апрацаваныя, каб разгледзіць менаваныя пытаньні, і якія з гэтых тэмаў кажны зь іх апрацуе. У канцы Рэфэрэнт выказвае пажаданьне, каб тэмы былі апрацаваныя ў форме дакладаў, каторыя можна было-б мець на Культурна-Асьветных Сходах і потым надрукаваць.

Дзеля таго, што Культурна-Асьветны Рэфэрэнт Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ня ўсіх беларускіх лекараў знае, а й з тых, што знае, ня ўсіх ведае адрасы, дык вельмі пажадана, каб адгукнуліся й тыя, каторыя не адзержылі менаванага звароту. Пісаць трэба на адрас Культурна-Асьветнага Рэфэрэнта або адрыс Галоўнай Рады Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (Baza, 656 Hopkinson Ave. Brooklyn 12, N. Y. USA).

## Беларускі сьвятар доктарам пэдагагічных навук

25 студзеня перад факультэтам Лювэнскага ўнівэртытэту а. Аўген Смаршчок пасьпяхова абараніў сваю доктарскую працу.

Тэмай досьледаў беларускага псыхопэдагога была вельмі разнаякая навуковая дзейнасьць польскае вучонае Юзэфы Іотэйко (1866—1928): біялёга, мэдыка і фізіялёга, псыхалёга, пэдалёга і пэдагога, якая правяла найпрадуктыўнейшы пэрыяд свайго навуковага жыцьця ў Бэльгіі (1898-1914), закладаючы там у 1912 г., у Бруксэлі, Інтэрнацыянальны факультэт Пэдалёгіі (навука аб дзіцяці), выпускніком і доктарам якога зьяўляецца цяперашні собсьнік катэдры пэдагогікі на Лювэнскім унівэрсытэце, праф. Раймонд Бюіз.

Першая частка дысэртацыі прысьвечаная жыцьцю, студыям і цэласьці навуковае спадчыны; другая частка — ядро працы а. А. Смаршчка — гэта крытычна-навуковы аналіз псыха-пэдагагічнай дзейнасьці праф. Ю. Іотэйко у Бэльгіі, Францыі і Польшчы.

Тры дадатковыя тэзы, прадстаўляныя доктарам побач дысэртацыі адносяцца да пытаньняў: інтэлектуальнага змучаньня і перамучаньня, фармаваньня школьных псыхалёгаў ды індывідуалізацыі навучаньня й калектыўнага ўзгадаваньня.

Айцец Аўген, прафэсыйны настаўнік з пэдагагічнай практыкай у польскай і нямецкай народных школах, пасьля заканчэньня ўнівэрсытэцкіх студыяў дыплёмам псыхалёга ў Марбургу (1950), прыбыў у Бэльгію, дзе, побач з душпастырскай дзейнасьцяй, здабыў тытул магістра пэдагагічных навук і пачаў досьледы для доктарскае працы.

Такім чынам, бэльгійскі прафэсар, дзякуючы дысэртацыі а. Аўгена, шчодра сплаціў доўг памяці свайму былому настаўніку праф. Ю. Іотэйко. Беларускі адэпт псыха-пэдагагічных ведаў увайшоў у кола навукі і нацыяў, даючы навуковую сынтэзу вялізарнае спадчыны слаўнае вучонае, вялікае настаўніцы і вялікае Polькі, якая прысьвяціла ўсё сваё жыцьцё справе, каб «чужыя дзеці былі ляпей навучаныя і ляпей узгадоўваныя» (Р. Бюіз).

Нашым беларускім жаданьнем з гэтае радаснае нагоды ёсьць — каб, ня гледзячы на цяжкія абставіны жыцьця і здароўя, навуковая праца а. Аўгена памысна працякала і надалей — для дабра веды, для славы БАП Царквы і беларускага народу ды на карысьць псыха-пэдагагічных праблемаў нашага жыцьця на чужыне.

Шчасьці Божа!

## Сустрэча Беларусаў з прадстаўнікамі Амэрыканскага Камітэту

Акрутовая Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня 3-га лютага сёлета наладзіла сход Беларусаў Нью Ёрку з мэтай азнаямленьня зь дзейнасьцяй Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму.

Ад Амэрыканскага Камітэту на сход прыбылі сп. сп. М. Тэрпак і Г. Бурбель, якіх прывітаў старшыня Акруговай Управы БАЗА.

Сп. Тэрпак коратка прадставіў арганізацыйную структуру Амэрыканскага Камітэту, ягоныя заданьні й практычную дзейнасьць. Гэтая дзейнасьць дзеліцца ў васноўным на тры часткі: праца радыя «Вызваленьне» праца Інстытуту для Вывучэньня СССР і палітычна-каардынацыйная дзейнасьць у змаганьні за вызваленьне спад бальшавізму паняволеных Савецкай Расеяй народаў.

Наступна быў паказаны фільм з выступу ў тэлевізыі Прэзыдэнта Амэрыканскага Камітэту сп. Г. Сарджэнта, які дэманстраваў дзейнасьць і дасягненьні Камітэту.

Пасьля былі праслуханыя дзьве радыяперадачы беларускай сэкцыі радыя «Вызваленьне».

Другая частка сходу была выкарыстаная на выказваньні й запытаньні на якія сп. сп. Тэрпак і Бурбель давалі задавальняючыя адказы й паясьненьні.

У дыскусіі былі закранутыя розныя аспэкты дзейнасьці Камітэту, а важнейшыя зь іх можна сфармуляваць наступна:

а) Засяг практычнага прымяненьня гэтак званае палітыкі непрадрашэнства Амэрыканскага Камітэту;

б) Засяг адказнасьці ў практычнай працы, асабліва ў сэкцыях радыя «Вызваленьне», амэрыканскіх кіраўнікоў і пэрсаналу паасобных сэкцыяў;

в) Пашырэньне палітычнае дзейнасьці, якая вельмі мала праяўляецца Амэрыканскім Камітэтам.

Асаблівая ўвага была зьвернена (асобамі што чытаюць скрыпты) на аднастайнасьць радыёвых праграмаў за апошнія два месяцы мінулага году. Заўважана адсутнасьць праграмаў «Беларусы ў вольным сьвеце» ды іншых, ужо раней рэкамэндаваных. Таксама была зробленая слушная заўвага, што важныя матар'ялы — артыкулы ў зборніках ды паасобныя манаграфіі — выдаюцца ў Інстытуце на ратататары, у той час калі пажадана й патрэбна, каб яны выдаваліся друкам.

Гэта была другая сустрэча Беларусаў з прадстаўнікамі Амэрыканскага Камітэту й трэба спадзявацца, што ў будучыні іх будзе больш, бо яны вельмі патрэбныя. Такія сходы даюць нагоду Беларусам лепш зразумець дзейнасьць Амэрыканскага Камітэту, а з другога боку Амэрыканскі Камітэт мае магчымасьць пазнаёміцца зь Беларусамі й іхнымі праблемамі; усё гэта спрычыніцца да цясьнейшага супрацоўніцтва.

**Прысутны**

## У Клыўлэндзе (ЗША)

Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Клыўлэндзе, як і ў мінулыя гады, наладзіла сёлета абход з каляднаю зоркаю беларускіх сем'яў, якія радасна віталі сваіх калядоўшчыкаў. Дзякуючы сп. К. Кісламу, калядоўшчыкі падрыхтавалі шмат калядак. У касу моладзі было сабрана 120 даляраў.

☆

На праваслаўныя Каляды ў царкве БАПЦ ў Клыўлэндзе адбылася ўрачыстая багаслужба. Прыгожа пяяў царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага. Пасьля службы сп. М. Страпко ад імя Царкоўнага Камітэту і прыхаджанаў павіншаваў а. Яфімія, настаяцеля царквы, з днём ягоных 60-х угодкаў жыцьця, дзякуючы яму за 5 год службы ў нашым прыходзе ды ўручаючы калядны падарунак. Калядныя падарункі былі перададзеныя таксама пратадзіякану К. Савіцкаму і дырыгенту сп. К. Кісламу..

☆

Каб годна адзначыць свае Каляды, кіраўніцтва моладзі пастанавіла наладзіць калядны банкет, які й адбыўся 13 студзеня. А 3-й гадзіне ўсё было гатова да адкрыцьця ўрачыстасьці: поўныя яды й пітва сталы, аркестра, рупар і столікі ў канцы залі, вялікая грамада моладзі. Кіраўнік моладзі, Ул. Дунец, папрасіў прысутных праслухаць трапар і некалькі калядных песьняў ў выкананьні хору моладзі пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага. У сваім прывітальным слове кіраўнік моладзі заклікаў да большае актыўнасьці ў грамадзкай і культурнай працы, адцемліваючы асягнутыя ўдачы і заслугу ў гэтым сп. К. Кіслага. У адказ на атрыманы ад моладзі падарунак (тэчку на ноты), сп. Кіслы запэўніў, што ня будзе шкадаваць ні часу ні энэргіі, а аддазаць усе сілы для рэпрэзэнтаваньня імя Беларусі і нашых прыгожых народных песьняў. У часе абеду сп. М. Латушкін выступаў із сваімі вершамі, якія вельмі спадабаліся моладзі. Ён заўважыў, што моладзь павінна больш цікавіцца літаратурай і прабаваць свае сілы ў ёй. Пасьля, пад акардыён Ул. Літвінкі, паплылі беларускія песьні. Сп. М. Рачыцкі, які прыехаў з Канады, прывітаў моладзь ад імя беларускае грамады ў Таронта ды, каб паказаць, што наша песьня жыве і ў Канадзе, прыгожа выканаў танга. Яму адказалі дуэтам Іра Каляда й Маня Лук'янчык. Пазьней пачаліся танцы, пераплятаныя прамовамі, кароткімі скечамі і сьпевамі.

☆

12 студзеня для дзяцей і моладзі Клыўлэнду была наладжаная беларуская ялінка. Маладыя артысты-школьнікі, выклікаючы зьдзіў прысутных, паказвалі свае здольнасьці. Мастацкай часткай кіравалі настаўнікі мясцовае беларускае школы сп. сп. К. Кіслы і В. Шчэцька. Школьны хор выканаў тры калядныя песьні: «Ой, Калядачкі», «Дуда» і «Сьвецяць, сьвецяць зорачкі». З дэклямацыямі вершаў выступілі: О. Дубаневіч, А. Кананчук, Ул. Страпко, М. Стрэчынь і В. Стрэчынь. Оля Дубаневіч, вельмі здольная маладя акардыяністка, выканала некалькі нумароў на акардыёне. Юрка Лазар — акардыяністы, меншы за акардыён, які ўжо некалькі разоў выступаў на канцэртах — пацешыў прысутных гукамі «Лявоніхі». Яшчэ пяяў хор, сам і супольна із салісткай Ірай Калядой.

Сьвяткаваньне наведаў Дзед-Мароз з падарункамі для дзяцей, моладзі і навет для старэйшых. Ён хваліў дзяцей, што добра вучацца, сьпяваюць, граюць і дэклямуюць вершы ў роднай мове.

☆

Аддзел БАЗА ў Клыўлэндзе ладзіў супольную сустрэчу новага году. На сустрэчу прыбыло каля 120 асоб. Старшыня сп. Латушкін із сваім заступнікам паклапаціліся, каб належна падрыхтаваць гэтую ўрачыстасьць. Да II-й гадзіны танцавалі пад музыку аркестры «Палесьсе» (кіраўнік Ул. Літвінка). Новы Год сустрэлі за сталамі кілішкамі і ўзаемнымі вітаньнямі. Пасьля йзноў пайшлі ў танцы пад гукі шчодрага й нястомнага «Палесься».

Была наладжаная лятарэя, даход зь якое ў суме 50 даляраў, быў пераказаны на выданьне беларускага сьпеўніка.

А 3-й гадзіне раніцы мусілі закончыць вясёлую бяседу. Не адзін падумаў, што ў песьні правільна пяецца: «Трэба дзень скараціць ды да ночкі прытачыць»...

☆

Дзеля большае актывізацыі нацынальна-культурнага жыцьця, на зімовы сэзон Камітэт аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ладзіць вечары Беларускае Гісторыі й Культуры. Пачаліся яны 30-га сьнежаня з рэфэрату сп. А. Каханоўскага на тэму «Каляды ў Беларусі». Дакладчык адцеміў, што на Бацькаўшчыне звычай традыцыйнага сьвяткаваньня Каляд забаронены, таму мы тут, на чужыне, павінны захаваць усё і занесьці на Бацькаўшчыну. У сваім рэфэраце сп. А. Каханоўскі насьветліў сьвяткаваньне Каляд на Беларусі з гульнямі, варожбамі, віншаваньнямі, песьнямі. Рэфэрат быў вельмі цікавы й карысны, асабліва для моладзі.

☆

2-га сакавіка ў Клыўлэнд завітае ведамы беларускі сьпявак, бас Пётра Конюх. Разам зь ім прыедуць калішнія жыхары Клыўлэнду камп. праф. М. Кулікович і сьпявачка Надзея Гродэ. Яны дадуць канцэрт песьняў. Пасьля канцэрту адбудзецца забава, пад музыку аркестры «Палесьсе».

**(Зь «Бюлетэню» № 4 ЗБМ у Клыўлэндзе)**

# П А Д З Я К А

Эпархіяльная Ўправа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Аўстраліі складае шчырую падзяку нашым суродзічам і верным хрысьціянам Сьв. БАПЦ, якія зланжылі сваю схвяру на ўтрыманьне Яго Высокапрэасьвяшчэнства Высокапрэасьвяшчэннага Архіяпіскапа **Сяргея**, галаву БАПЦ. Згодна пастановы Эпархіяльнага зьезду ў 1953 г., праводзіліся зборы дабравольных складак на вышэй успомненую мэту.

За 1956 год было сабрана: Паўдзенная Аўстралія (Адэляйда) — 41 фунт. 12 шыл., Вікторыя (Мэльбурн) — 30 ф., Складкі БНР (Аўстралія) — 27 ф., ЗША — 22 ф.; **разам** — 120 ф. 12 ш.

Скарбнік БАПЦ у Аўстраліі, веручы ў вахвярнасьць і шчырае сэрца Беларусаў, спадзяецца, што ў 1957 г. грашовыя ахвяры збольшацца, і да іх далучаць сваю долю тыя, якія ў гэтым годзе з тых ці іншых прычынаў спазьніліся ўнесьці свой ахвярны ўдзел.

**Пратаерэй М. Шчурка**

### КАСАВАЕ СПРАВАЗДАНЬНЕ ВІКАРЫЯЛЬНАЕ ЎПРАВЫ І ЦЭНТРАЛЬНАЕ УПРАВЫ ПРАВАСЛАЎНАГА БРАЦТВА І СЯСТРЫЦТВА ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ ЗА 1956 ГОД

| Даход | | ф. ш. п. |
|---|---|---|
| Сальдо зь пераносу за 1955 г. | | 30/13/1½ |
| Сяброўскія складкі | | 15/01/- |
| Ахвяры | | 12/06/5 |
| Талерачныя зборы | | 4/11/9½ |
| Збор ў часе Парахвіяльнага сьвята | | 12/09/9 |
| | Разам: | 75/02/1 |
| **Выдаткі** | | |
| Парахвіяльны абед | | 13/19/- |
| Паштовыя расходы | | 2/01/6½ |
| Друкі мэтрыкальных блянак | | 8/10/0 |
| Пераказана для Ўладыкі Сяргея | | 8/--/- |
| Кошты падарожжа | | --/13/6 |
| Матарыял на падрызьнік | | 1/19/7 |
| Зэкупы для Капліцы і канцыляр. патрэбы | | 4/07/- |
| | Разам: | 39/10/7½ |
| | Сальдо: | 35/11/5½ |

Брадфорд, 31. 12. 1956.






**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.**